Арганізатар першага рыцарскага турніру ў Лошыцкім парку, моладзевага этнагістарычнага сьвята «Лошыцкі фэст»; выездаў на рыцарскі турнір у Голуб-Добжынь (1995); на інсцэніроўку Грунвальдзкай бітвы (1996), у Чэхію (Млазавіцэ, 1997), першай паездкі дэлегацыі беларускіх рыцарскіх клюбаў на Грунвальдзкую бітву (Ольштын, 1998), сьвяткаваньня ўгодкаў Грунвальдзкай бітвы у Менску з 1996 па 1999 гг.

Стваральніца першага праекту гістарычнай музыкі «Легенды Вялікага Княства» (2000–2001), альбома гістарычнай музыкі «Старажытная зямля» (2005), сэрыі «Беларуская музычная калекцыя»: «Постфольк», «Музыка Вялікага Княства Літоўскага», «Беларускі музычны авангард», «Сьпевы Беларусі», «Мэдываль», «Вясковая лірыка» (2007–2009) і шэраг іншых.

Арганізатарка больш як 100 канцэртаў старадаўняй і фальклёрнай музыкі «Легенды Вялікага Княства», «Старадаўняя музыка Беларусі і Эўропы» ды іншых.

Прадусар гурту «Стары Ольса», музычнага праекту «Вір». Кансультант музычнага праекту «Гістарычны эпас», фільма «Старадаўнія музычныя інструменты Беларусі».

Адна з арганізатараў нацыянальных конкурсаў маладых выканаўцаў старадаўняй музыкі «У гонар каралевы Боны» (Менск, Наваградак, 2005–2006).

Адна з заснавальнікаў Беларускага клюбу лютністаў (2008).

Намесьніца дырэктара ААТ «Новая музычная кампанія» (2007–2009), намесьніца дырэктара выдавецтва «Каўчэг» (з 2009). Каардынатар міжнародных праектаў Дома сустрэчаў «Мікушэва» (Польшча, з 2011). Адна з кіраўнікоў этнагістарычнага цэнтру «Явар», супрацоўнічала з Белдзяржфілярмоніяй, «Моладзевым Тэатрам Эстрады». Аўтар праекту «Ноч музыкі» ў Белдзяржфілярмоніі (2010).

Дзеці — Радаслава, юрыст; Францішак, журналіст, грамадзкі актывіст; Ружана, школьніца. Унук Даніла.

www.svaboda.org/content/article/24542936.html

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад: 299 асобнікаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»







Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 4 (красавік), 2012

# Мяжа



**Нобелеўскі камітэт прыняў кандыдатуру беларускага праваабаронцы, палітвязня Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру**

(старонка 12)

## ЗЬМЕСТ







## Пайшла з жыцьця Арына Вячорка

Яна памерла ў Вільні 9 красавіка. Арына Вячорка — пэдагог, грамадзкі дзяяч, ініцыятарка адраджэньня рыцарскага руху Беларусі.

У аэрапорце ў Вільні 5 красавіка з Арынай здарыўся інсульт. Ад таго часу яна заставалася ў коме.

Арына ВЯЧОРКА (Ірына Паладзеўна Ползік).



(14 красавіка 1961, Менск — 9 красавіка 2012, Вільня )

Беларускі пэдагог, грамадзкая і культурная дзяячка, ініцыятарка адраджэньня рыцарскага руху і гістарычнай музыкі Беларусі.

Па адукацыі матэматык. Скончыла асьпірантуру пры БДУ у спэцыяльнасьці «гісторыя пэдагогікі»; Вышэйшую школу грамадзкіх прафэсіяў у спэцыяльнасьці «мэнэджэр культуры» (Познань).

Працавала ў беларускіх школах Менску, у Лябараторыі філязофіі і гісторыі адукацыі Нацыянальнага інстытуту адукацыі. Аўтар артыкулаў з гісторыі беларускай пэдагогікі, гісторыі матэматыкі і тэхнікі Беларусі для «Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі», «Гісторыі беларускай навукі і тэхнікі». Укладальніца двухтомнай бібліяграфіі гісторыі беларускай пэдагогікі.

Сузаснавальніца першага беларускага нефармальнага згуртаваньня новага часу «Беларуская сьпеўна-драматычная майстроўня» (1980–1985). Удзельніца руху за адраджэньне беларускае школы з 1983 году. Сузаснавальніца моладзевага адраджэнцкага згуртаваньня «Талака» (1986–1988).

Адна з арганізатараў дзіцячага летніку «Грунвальд» (1992).

З 1993 заснавальніца рыцарскага руху Беларусі. Стваральніца і кіраўніца Беларускага рыцарскага клюбу, пазьней клюбу «Вялікае княства» (1996–2007).

## У Брэсце Марата Несцярэнку і Аляксандра Ахмача затрымалі амаль на тры гадзіны

Мясцовыя грамадскія актывісты праводзілі ў горадзе інфармацыйную акцыю, падчас якой распаўсюджвалі ўлёткі з нагоды гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС і势 планаемага будаўніцтва ў Беларусі атамнай электрастанцыі.

Як распавёў Аляксандр Ахмач, супрацоўнікі міліцыі затрымалі яго і Марата Несцярэнку ў 14.50, абвінавацілі ў правядзенні несанкцыянаванай акцыі і даставілі спачатку ў суд Брэсцкага раёна, а пазней - у Ленінскі РАУС Брэста. Там быў складзены пратакол ў адносінах да дзесятка ўлётак, што яшчэ заставаліся ў грамадскіх актывістаў. Міліцыянты патлумачылі, што ўлёткі накіруюць на экспертызу, пасля чаго будзе вырашана, ці ёсць у дзеяннях Ахмача і Несцярэнкі адміністратыўнае правапарушэнне. У 17.30 яны былі адпушчаны з міліцэйскага пастарунку без складання пратаколу затрымання.

spring96.org/be/news/51987

## Супраць атамных эксперыментаў

У Брэсце адбыўся “круглы стол”, на якім эколагі прэзентавалі “Белую Кнігу”, прысвечаную атамнай энергетыцы. Удзельнікі мерапрыемства падпісалі зварот да кіраўніцтва Беларусі з заклікам спыніць атамныя эксперыменты (“гэта не просьба, а настойлівае патрабаванне часу”), бо ад грамадскасці наўмысна хаваюць усе адмоўныя наступствы будаўніцтва АЭС у Астраўцы. У прыватнасці, доктар фізіка-матэматычных навук Віктар Сіўчык заўважыў, што электраэнергія з новай АЭС будзе даражэйшая за тую, што Беларусь зараз купляе за мяжой. Эколаг Яўген Урэцкі нагадаў, як з-за валявых рашэнняў, што прымаліся некампетэнтнымі людзьмі, не мог не адбыцца Чарнобыль, а ягоныя наступствы (рост хваробаў з-за спажывання “бруднай” ежы, “гульні” з парогамі забруджвання, экалагічная непісьменнасць) у цяперашні час спрабуюць пакінуць без увагі.

Што тычыцца “Белай Кнігі”, дык з яе дапамогай эколагі спрабуюць змяніць стаўленне беларускіх грамадзян да згаданай праблемы і ставяць у прыклад гісторыю Германіі, дзе мясцовыя жыхары дамагліся спынення будаўніцтва АЭС.

spring96.org/be/news/51890





## Рыбакі Брэстчыны бароняць Лукаўскае вадасховішча

Зварот, які падпісалі больш за 4 тысячы чалавек, перадалі ў Брэсцкі аблвыканкам.

Рыбакі Брэстчыны бароняць Лукаўскае вадасховішча.



Зварот, які падпісалі больш за 4 тысячы чалавек, перадалі ў Брэсцкі аблвыканкам.

euroradio.fm/report/rybaki-brestchyny-baronyats-lukawskae-vadaskhovishcha-103849

## “Справядлівы свет” абскарджвае забарону пікетаў у Брэсце

Мясцовыя актывісты Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” звярнуліся ў суд са скаргай на дзеянні чыноўнікаў Брэсцкага гарвыканкама, якія не дазволілі ладзіць пікеты, прысвечаныя праблеме даступнасці жылля.

Як нагадала старшыня гарадской арганізацыі партыі “Справядлівы свет” Людміла Дзенісенка, у сакавіку былі пададзены тры заяўкі на

правядзенне пікетаў, падчас якіх актывісты збіраліся прыцягнуць увагу на парушэнне 48 артыкулу Канстытуцыі РБ. Гэты артыкул дэкларуе, што грамадзяне маюць права на жыллё, а тым, хто мае патрэбу ў сацыяльнай абароне, жыллё прадстаўляецца дзяржавай бясплатна альбо па даступных коштах.

Брэсцкія ўлады дазволілі толькі адзін пікет, але і ён быў фактычна сарваны дзеяннямі супрацоўнікаў міліцыі. Што да забароненых акцый, дык Людміла Дзенісенка кажа, што адмова на правядзенне пікетаў парушае права на мірныя сходы, таму вырашана абскардзіць рашэнне гарвыканкаму ў судзе. "Мы збіраемся давесці, што маем права ладзіць такія пікеты, тым больш у вызначаным для гэтага гарадскімі ўладамі месцы, як звычайныя грамадзяне і як сябры партый, чыя дзейнасць рэгламентуецца Законам аб палітычных партыях", - патлумачыла мэту звароту ў суд Людміла Дзенісенка.

spring96.org/be/news/51636

## Суд Маскоўскага раёна горада Берасця не дазволіў пікетаваць у падтрымку кіраўніка праваабарончай арганізацыі "Вясна"

Алеся Бяляцкага, што зараз знаходзіцца ў месцах зняволення за нібыта неўплату падаткаў, і дзеянні берасцейскага гарадскога выканаўчага камітэту дадзенай інстанцыя былі прызнаныя законнымі.

Лідар "Вясны" прысуджаны да 4 гадоў і 6 месяцаў зняволення, і гэта абурае грамадства. Не застаўся неабыякавым да такіх падзеяў і берасцейскі актыў "Вясны". Следам за праведзенай акцыяй па вуліцы Савецкай у падтрымку лідара праваабарончай арганізацыі была падзеная заяўка на пікетаванне. Адказ прадказальны – адмова па надуманых прычынах. Гэта абурыла праваабаронцаў і пабудзіла жаданне змагацца да апошняга за свае правы. З скаргаю на незаконную адмову яны і звярнуліся ў суд. На колькі тое эфектыўна, змагацца з беларускаю судоваю сістэмаю мы дазнавалі ў берасцейскага прадстаўніка праваабарончага цэнтру "Вясна" Ўладзіміра Вялічкіна.

- Спадар Вялічкін, у чым праяўляецца сістэматычнасць адмоваў у пікетаваннях? Па якім прычынам Вам звычайна адмаўляюць?

- Я магу сказаць адное: мая падача заяўкі на пікетаванне – як кантрольны стрэл у галаву. Яшчэ перш чым падаваць заяўку было вядома, што будзе адмоўлена. Таму як гэта, сапраўды, сістэматычна, і, калі не браць папярэднія гады, а толькі гэты год, то па некалькім





Адпаведная заява ў вызначаны тэрмін пададзена ў Брэсцкі абласны суд, які вёў разбіральніцтва. Удзельнікі судовага працэсу з боку пацярпелых адразу заявілі, што лічаць прысуд несправядлівым і ўспрымаюць яго як насмешку. Сваячка загінулага, Алена Мароз, паведаміла з чым яны нязгодныя:

- Я лічу гэты прысуд несправядлівым. Галоўнага абвінавачанага не было. З гэтага ўсяго вынікае, што і надалей можна не выконваць тэхніку бяспекі? Няхай людзі гінуць, за гэта ніхто не нясе адказнасць!

Нагадаем, што 23 сакавіка ў Пінску быў вынесены прысуд у справе выбуху на "Пінскдрэве". Вінаватымі прызналі: дырэктара холдынгу Леаніда Логвіна (атрымаў 4 гады ўмоўна), інжынера Уладзіміра Шастакова (4 гады калоніі пасялення), галоўнага інжынера Ігара Логвіна (3 гады калоніі пасялення). Дырэктар "Пінскдрэва" Ларан Арыніч пазбег адказнасці, бо ўцёк ад следства за мяжу.

new.racyja.by/news/patsyarpelyya-ad-vybukhu-na-pinskdreve-ne-zgodnyya-z-prysudam

## Футбалістка брэсцкай "Вікторыі-86" праз суд дабілася выплаты заробку, які не плацілі з леташняга верасня

Сітуацыю з брамніцай Юліяй Ракіцянскай патлумачыў юрыст прафсаюза РЭП Уладзімір Малей. Ён прадстаўляў яе інтарэсы ў судзе.

Уладзімір Малей: "На карысць футбалісткі спагнана 5 мільёнаў 183 тысячы 150 рублёў. Гэтая сума склалася з нявыплачанага заробку за верасень–снежань 2011 і часткі яго за люты–сакавік 2012 года. Суд таксама задаволіў хадайніцтва Юліі Ракіцянскай аб маральным адшкадаванні ў 1 мільён рублёў".

Дарэчы, нявыплаты ў рознай ступені закранулі 13 футбалістак "Вікторыі-86". Адна з іх раней таксама праз суд дамаглася выплаты грошай. Да гэтага спартоўкі звярталіся ва ўпраўленне фізкультуры Брэсцкага аблвыканкама. Адтуль прыйшла інфармацыя, што на год ім вылучана 200 мільёнаў рублёў. Плаціць грошы мае Брэсцкі гарвыканкам. Раней грошы даваў аблвыканкам. І летась на клуб выдаткавалі больш за 320 мільёнаў рублёў.

euroradio.fm/report/futbalistka-adsudzila-svoi-zarobak-z-dapamogai-nezalezhnaga-prafsayuza-106139

гэтай супольнай структуры было абвешчана падчас судовага перапынку па справе Стахаевіча. Зінаіда Міхнюк спадзяецца, што іх прыкладам скарыстаюцца незалежныя прафсаюзы і ў другіх абласцях Беларусі.

У Каардынацыйны савет ўвайшлі чатыры суб'екты БКДП, якія існуюць на Брэстчыне: Беларускі незалежны прафсаюз гарнякоў і хімікаў (БНП), Свабодны прафсаюз металістаў (СПМ), Свабодны прафсаюз Беларускі (СПБ) і прафсаюз радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП).

spring96.org/be/news/51637

## Нобелеўскі камітэт прыняў кандыдатуру беларускага праваабаронцы, палітвязня Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру

Пра гэта паведаміў сябра камісіі па замежных справах польскага Сейму Анджэй Галіцкі.

Заява аб рэгістрацыі Алеся Бляцкага ў кандыдаты была дасланая напрыканцы студзеня. Пад ёй падпісаліся польскія дэпутаты. Ідэю падтрымалі дэпутаты з Савета Еўропы. «Алесь Бяляцкі мае сапраўды вялікі шанец, каб стаць лаўрэатам гэтай вельмі важнай узнагароды,» – адзначае Анджэй Галіцкі.

– Алесь Бяляцкі – гэта кандыдат, які напэўна будзе мець вялікі шанец атрымаць гэтую ўзнагароду. Усе ўсведамляюць і ўсведамляюць усё шырэй, якая трагічная сітуацыя ў Беларусі, як там парушаюцца правы чалавека. Думаю, што, калі Алесь Бяляцкі асабіста або яго жонка атрымае гэтую узнагароду, то гэта будзе вельмі сімвалічнае і падобнае здарэнне да таго, якое давала сілы нам, палякам, калі Данута Валэнса атрымлівала ўзнагароду Нобеля.

Старшыня Праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі адбывае прысуд 4,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. У лістападзе мінулага года суд прызнаў яго вінаватым у нявыплаце падаткаў у асабліва буйным памеры. Грошы, якія Бяляцкі атрымаліваў на замежныя рахункі, прызначаліся на дзейнасьць у сферы абароны правоў чалавека.

new.racyja.com/news/ales-byalyatski-vyluchany-na-nobelya-abnoulena

## Пацярпелыя ад выбуху на "Пінскдрэве" не згодныя з прысудам

Сваякі загінулыхі і выжаўшыя ахвяры ў выніку выбуху на "Пінскдрэве" не пагадзіліся з прысудам у справе трагедыі і спрабуюць абскардзіць рашэнне.






Праваабаронца Ўладзімір Вялічкін

дзесяткам заявак на правядзенне пікетаванняў ужо была атрыманая адмова. Быў адзіны выпадак "эксклюзіўны" з спадаром Чыпурных з партыі "Справядлівы свет" – яму дазволілі правядзенне пікетавання. Але гэтае пікетаванне адбылося ў такой сітуацыі, што збеглася каля дзесятка міліцыянтаў, "узялі яго ў кола", і чалавек адчуваў сабе вельмі няёмка і няўтульна. У выніку пікетаванне не было праведзена.

- Чаму ўсё ж ёсць неабходнасць падачы такіх заявак?

- З аднаго боку, канешне, хацелася б, каб правы ў гэтай краіне выконваліся, каб нашая краіна была прававой дзяржаваю, але ў нашых умовах не застаецца іншых мірных крокаў як гэты "стрэл у галаву" ўладзе, каб чарговы раз паказаць, што тут грамадзяне правоў не маюць. І можа на сённяшні дзень смела казаць, што ў Рэспубліцы Беларусь утварылася сістэма ўлады кшталту старажытных часоў у Грэцыі, калі быў народ, які прымаў рашэнне на сходах і былі плебеі, якія ніякага ўплыву ні на што не мелі. Дык вось сёння мы маем, што ёсць народ, то бок гэта наменклатура і прадстаўнікі ўлады, і ёсць усе астатнія, якім можна нічога не дазваляць.

- Ці можна казаць пра незалежнасць суду ў прыняцці рашэнняў накшталт пікетавання адносна салідарнасці з Алесем Бяляцкім?

- У нас ёсць дзяржава, ёсць улада ў дзяржаве. Ёсць нібыта падзяленне ўлады на выканаўчую, заканадаўчую і судовую. І ўсе мы бачым, што, калі мы возьмем Канстытуцыю ў рукі, то там пазначана, што нават палова судзяў Канстытуцыйнага суду прызначаецца кіраўніком дзяржавы. У іншых судах суддзі прызначаюцца таксама па ўзгадненню. Тое ж сама можна сказаць і пра іншыя структуры. То бок першапачаткова яшчэ ў Канстытуцыі 1994 году была закладзеная міна запаволенага дзеяння, якая прывяла нас да таго, што мы маем сёння.

Прэс-служба берасцейскай арганізацыі праваабарончага цэнтру "Вясна"

## У Берасьці забаранілі акцыю супраць забойства жывёл

Берасьцейскі гарвыканкам забараніў правядзеньне мерапрыемства ў падтрымку ўкраінскай «Акцыі супраць забойства беспрытульных жывёлаў «Fair Play».

Заяўку на правядзеньне раздачы ўлётак падавала жыхарка Берасьця Ірына Сіняпкіна.

Спадарыня прасіла дазволіць ёй распаўсюджваць на вуліцы ўлёткі з тэкстам у абарону жывёлаў:

«Украінскія і эўрапейскія зоаабаронцы патрабуюць ад ураду Ўкраіны спыніць забойства жывёлаў, якое чыніцца з патураньня ўладаў напярэдадні чэмпіянату сьвету па футболе «Эўра-2012».

Ірына Сіняпкіна ў тэксьце ўлёткі зьбіралася данесьці да берасьцейцаў, што выказвае «салідарнасьць з зоаабаронцамі Ўкраіны». Спадарыня перакананая, што «ўсе мы атрымліваем маральныя траўмы, бачачы гэтыя жахі, бо некаторыя робяцца жорсткімі і абыякавымі да чужога болю».

Спадарыня Сіняпкіна зьбіралася раздаваць улёткі на Пушкінскай вуліцы Берасьця 28 красавіка.

Забарону акцыі падпісаў намесьнік старшыні Берасьцейскага гарвыканкаму Вячаслаў Хафізаў.

Берасьцейскі праваабаронца Раман Кісьляк паведаміў «Свабодзе», што забарона раздаваць ўлёткі незаконная:

«Справа ў тым, што распаўсюд друкаваных матэрыялаў (улётак) не трапляе пад дзеяньне закону аб масавых мерапрыемствах, калі толькі ў гэтых улётках няма заклiку на масавае мерапрыемства. Жанчына магла абсалютна вольна распаўсюджваць гэтыя ўлёткі без падачы якіх-небудзь заявак. У сувязі з гэтым адказ намесьніка старшыні гарвыканкаму незаконны».

www.svaboda.org/content/article/24559771.html

## Ліквідатар не змог паехаць на Чарнобыльскі шлях

Ліквідатар з Івацэвіч Станіслаў Халадовіч не змог паехаць у Мінск на Чарнобыльскі шлях – 2012.

Перад начной зменай з 25-га на 26-га красавіка яму патэлефанаваў начальнік участка вадаканала, дзе Халадовіч працуе слесарам і паведаміў, што Халадовіч павінен выйсці ў дзённую змену 26-га





З пункту гледжаньня працоўнага заканадаўства, прафсаюзнага заканадаўства мы свае патрабаваньні пацьвердзілі і абгрунтавалі.

Спадарыня Яськова распавяла, што ўсе абставіны звальненьня Стахаевіча будуць прадстаўленыя міжнароднай грамадзкасьці і адпаведным міжнародным арганізацыям:

«Усе абставіны яго звальненьня ўжо зараз прымацаваныя да справы 2090 аб парушэньні правоў прафсаюзаў і працоўных у Беларусі. І ўсе гэтыя вынікі судовага разгляду мы таксама накіруем у Міжнародную арганізацыю працы ў дадатку да гэтай справы. І я думаю, што на высновай канфэрэнцыі Міжнароднай арганізацыі працы гэта будзе таксама прадметам разгляду. І, канечне, ня будзе стаяць пытаньня аб вяртаньні прэфэрэнцыяў. А паколькі абвастрыўся і на іншых прадпрыемствах ціск на незалежныя прафсаюзы, то магчыма, што будзе спэцпараграф».

Алега Стахаевіча звольнілі з «Граніту», пазбавіўшы перад гэтым правоў кіроўцы. Ён працаваў кіроўцам «БелАЗу». Пры звальненьні кіраўніку незалежнага прафсаюзу не прапанавалі ніякай іншай пасады на «Граніце», нягледзячы на тое, што ён мае адмысловую адукацыю.

Напрыканцы 2011 году некалькі соцень працаўнікоў прадпрыемства па здабычы будаўнічага каменю «Граніт» у Мікашэвічах (Берасьцейская вобласьць) напісалі заявы, што выходзяць з афіцыйнага прафсаюзу. Рабочыя абвясьцілі, што ствараюць на прадпрыемстве суполкі Беларускага незалежнага прафсаюзу. Адразу ж сябры незалежнага прафсаюзу адчулі ціск з боку адміністрацыі.

www.svaboda.org/content/article/24545139.htm

## Незалежныя прафсаюзы Брэстчыны аб’ядналіся

У Брэсцкай вобласці Незалежныя прафсаюзы аб’ядналіся ў Каардынацыйны савет Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў. Мэта стварэння такога савету, па словах старшыні абласнога прафсаюзу радыёэлектроннай прамысловасці Зінаіды Міхнюк – разам весці перамовы з наймальнікамі і ўладай адносна паляпшэння жыцця працоўных Брэсцкай вобласці.

Стварэнне такога савету прыспешыў суд над кіраўніком суполкі Незалежнага прафсаюзу гарнякоў на “Граніце”Алегам Стахаевічам, падтрымаць якога з’ехаліся прадстаўнікі розных незалежных прафсаюзных арганізацый.

Ідэя Каардынацыйнага савета нарадзілася даўно, але пра стварэнне

## У Брэсце з офіса таямніча знікла апазіцыйная друкаваная прадукцыя

Кампанія “Гавары праўду” часова захоўвала яе ў мясцовай штаб-кватэры Аб’яднанай грамадзянскай партыі.

Днём 27 красавіка зніклі 35 тысяч незапоўненых бланкаў “Грамадзянскай дамовы” і каля трох тысяч паштовак з лагатыпам кампаніі. Ніякіх слядоў пранікнення ў памяшканне невядомыя не пакінулі. Не спакусіліся яны на аргтэхніку і іншыя матэрыяльныя каштоўнасці.

euroradio.fm/report/u-brestse-z-ofisa-tayamnicha-znikla-apazitsyinaya-drukavanaya-praduktsyya-106148

## Суд не аднавіў Стахаевіча на працы

Лунінецкі раённы суд прызнаў законным звальненьне кіраўніка суполкі незалежнага прафсаюзу на прадпрыемстве «Граніт» у Мікашэвічах Алега Стахаевіча. Падтрымаць Алега прыехалі каля паўсотні лідэраў і актывістаў незалежных прафсаюзаў.

Алег Стахаевіч заявіў «Свабодзе», што лічыць незаконным рашэньне, якое вынес старшыня Лунінецкага суду Васіль Бельскі:

«Адмовілі ў пазове ў поўным аб’ёме. Усе нашы факты, усе нашы аргумэнты былі праігнараваныя. Усё дакладна так, як і з абскарджаньнем пазбаўленьня правоў у Берасьці. Анатоль Літвінка распавёў, што хадзіў пасьля суду ў кабінэт наконт скаргі Генадзя Паўлоўскага, якога таксама звольнілі. Ды заходзіць Бельскі і кажа на пракурорку: „Усё, мы з табой неўязныя“. А Анатоль яму кажа: чаго ён, маўляў, такі пэсымістычны... Сёньняшнія падзеі я магу акрэсьліць так: Лунінецкі суд даў трэшчыну».

Юрыст Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Алена Яськова, якая прадстаўляла інтарэсы Стахаевіча, адзначыла:

«З пункту гледжаньня працоўнага заканадаўства, прафсаюзнага заканадаўства мы свае патрабаваньні пацьвердзілі і абгрунтавалі. Аднак судовая пэрспэктыва гэтай справы мне была зразумелая, на жаль, загадзя. Канечне, рашэньне гэтае незаконнае, і выступленьне таго ж пракурора было юрыдычна няграматнае. З праваюга гледзішча была вельмі слабая матывацыя пракурора. Там размова ішла пра мэтазгоднасьць перанавучаньня Стахаевіча. Апанэнты даводзілі, што гэта вызначае наймальнік. Хоць падчас звальненьня па гэтым артыкуле — гэта не яго права, а абавязак».





красавіка па прыказу дырэктара гаспадаркі.

Станіслаў Халадовіч яшчэ раз пераканаўся, што яго тэлефон праслухоўвае КДБ:

– Я некаторым са знаёмых тэлефанаваў і пытаўся ці збіраюцца ехаць у Мінск на Чарнобыльскі шлях. Справа ў тым, што ў маіх асабістых планах было з’ездзіць на Чарнобыльскі шлях, бо я сам ліквідатар наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У 2010 годзе, калі я з плошчы трапіў на 15 сутак, супрацоўнікі КДБ настойвалі, каб мяне звольнілі, але мяне адміністрацыя не звольніла. Але, як я мяркую, ім паставілі ўмовы: не звольнілі - дык “пасвіце” яго.

Па словах Халадовіча, дазвол улады на акцыю і адначасовыя перашкоды па ўдзелу ў ёй паказваюць крывадушша цяперашняга кіраўніцтва розных рангаў, якія намагаюцца прывесці да забыцця Чарнобыльскай трагедыі.

charter97.org/ru/news/2012/4/26/51368/

## Брэсцкім левым адмовілі ў правядзенні дэманстрацыі

У правядзенні першамайскай дэманстрацыі - адмоўлена. Такі адказ атрымалі сябры Брэсцкай абласной арганізацыі партыі левых “Справядлівы свет” і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада).

Адмова была матывавана адсутнасцю дамоваў з камунальшчыкамі, міліцыяй, медыкамі і г.д.

Старшыня Брэсцкай гарадской арганізацыі партыі “Справядлівы свет” Людміла Дзенісенка з адмовай не пагадзілася:

- З 2003 года ўлады нам ні разу не дазволілі афіцыйна правесці дэманстрацыю ў Дзень міжнароднай салідарнасці ўсіх працоўных. Мы лічым, што гэтае рашэнне не адпавядае ні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, ні закону аб палітычных партыях, ні міжнародным пактам, якія Рэспубліка Беларусь падтрымлівае.

Як падкрэсліла Людміла Дзенісенка, рашэнне Брэсцкага гарадскога выканаўчага камітэта будзе абскарджана.

new.racyja.by/news/brestskiya-levyya-abskardzyats-admovu-u-pravyadzenni-demanstratsyi

## Брэсцкая “раёнка” апраўдвае забарону пікетаў

Дзяржаўная газета Брэсцкага раёна “Заря над Бугом” вырашыла прысвяціць артыкул з нагоды пададзеных у мясцовыя сельвыканкамы

заявак актывістамі Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” на правядзенне пікетаў, каб выказаць сваё стаўленне да пагаршэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі у рэгіёне.

Публікацыя мае назву “Бунтарства пад ... капірку”, а яе аўтар Ала Кавалёва пачынае артыкул такім паведамленнем: “У апошні час усё больш з’яўляецца так званых праваабаронцаў, якія, не маючы элементарнага ўяўлення аб становішчы спраў у раёне, у канкрэтных населеных пунктах, з чыйсьці падачы сваімі дзеяннямі спрабуюць выклікаць пратэстныя настроі ў людзей. Бесперспектыўнасць іх памкненняў у тым, што яны не знаходзяць падтрымкі сярод насельніцтва ды і самі не з’яўляюцца перакананымі прыхільнікамі прапанаваных мерапрыемстваў. Проста не інакш як камусьці не па душы сацыяльная стабільнасць, правапарадак, дынамічнае развіццё эканомікі ў нашым рэгіёне”.

Далей аўтар спрабуе давесці чытачам, што большасць з тых, хто быў пазначаны як ініцыятар пікетаў, на самой справе дачынення да такіх мерапрыемстваў не маюць, бо адмовіліся з’явіцца ў органы мясцовай улады для ўдакладнення пытанняў, звязаных з правядзеннем згаданых акцый. Пры гэтым Ала Кавалёва ўпэўнена сцвярджае, што нібыта арганізатары пікетаў абавязаны былі наведаць сельвыканкамы, а паколькі гэта зрабілі не ўсе, дык тады яны з’яўляюцца, на думку журналіста дзяржаўнай газеты, “ліпавымі” ініцыятарамі падобных мерапрыемстваў.

Гэта публікацыя ў брэсцкай “раёнцы” фактычна спрабуе апраўдаць дзеянні мясцовых уладаў, якія забаранілі месяц таму ўсе 15 пікетаў, што планаваліся ў вёсках прыбужскага рэгіёна.

spring96.org/be/news/51904

## Пракуратура накіравала скаргу наконт забароненага пікета ва ўстанову, якая прыняла такое рашэнне

Сябры брэсцкай суполкі прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) атрымалі з абласной пракуратуры адказ на сваю скаргу, якая тычацца забароны гарадскімі ўладамі Брэста правядзення пікета салідарнасці ў падтрымку актывістаў ствараемага незалежнага прафсаюза на прадпрыемстве “Граніт” у Мікашэвічах.





Як паведаміла кіраўніца брэсцкай суполкі прафсаюза РЭП Зінаіда Міхнюк, у абласной пракуратуры не палічылі мэтазгодным самастойна рэагаваць на змест скаргі і накіравалі яе ў Брэсцкі гарвыканкам, каб адтуль далі аўтарам звароту адказ па сутнасці. Але менавіта на дзеянні чыноўнікаў гэтага мясцовага выканаўчага органа скардзіліся прафсаюзныя актывісты, таму, на думку Зінаіды Міхнюк, вялікіх спадзяванняў на аргументаваны адказ у яе няма. А вось дзеянні самой пракуратуры, якая ухілілался ад разбіральніцтва па згаданай скарзе, выклікаюць у кіраўніцы суполкі прафсаюза РЭП здзіўленне.

spring96.org/be/news/51413

## Чыпурных і ААН

Берасцейсца Лявонцій Чыпурных распавёў пра парушэнне сваіх нед’емных правоў у камітэт па правам чалавека Арганізацыі Аб’яднаных Нацый.

Сябра берасцейскай аргінізацыі партыі левых “Справядлівы свет” быў затрыманы за некалькі дзён да пачатку Народнага сходу ў кастрычніку 2010 году у Берасці. Лявонцій Чыпурных разносіў па паштовых скрыньках інфармацыю пра такое мерапрыемства, у адным з двароў ён быў затрыманы, як высвятлілася пазней на судовым паседжанні, - быццам бы за заклікі да несанкцыянаванага з уладамі мерапрыемтсва. Аднак, сябра партыі падкрэсліў, што Народны сход з уладамі быў санкцыянаваны і ніякага парушэння з боку актывіста не было, а вось з боку ўлады была парушанае права на свабодны распаўсюд інфармацыі.

– Улады проста пабаяліся мерапрыемства не па іх сцэнару і вырашылі прыцягнуць мяне да адміністрацыйнай адказнасці, каб на сход трапіла як мага менш людзей, - распавёў Лявонцій Чыпурных.

Актывіст атрымаў суткі арышту, і дзякуючы “беларускай судовай сістэме” не змог своечасова абскардзіць рашэнне суда першай інстанцыі. Нягледзячы на тое, жыхар горада над Бугам скарыстаўся магчымасцю звярнуцца да прадстаўнікоў закону па-за межамі Беларусі з мэтаю абароны сваіх правоў на свабодны распаўсюд інфармацыі і абскарджаванне прысуду.

- Я нічога не парушаў і не павінен несці ніякай адказнасці, - дадаў сябра партыі Справядлівы свет.

Вольга Сініцына